 

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ГОРДАСЦЬ ЗЕМЛЯКОЎ

Герой Савецкага Саюза бабруйчанін Барыс Коўзан — адзіны лётчык-знішчальнік у свеце, які ў час Вялікай Айчыннай вайны чатыры разы тараніў варожыя самалёты і застаўся жывы. У сярэдняй школе № 1 Бабруйска, дзе ён вучыўся, у музеі баявой славы сабраны матэрыялы, звязаныя з ваенным подзвігам героя, яго ўспаміны.

### САЎГАС-САД

У інстытуце Саюзгіпрамеліяводгас праектуецца першы на беларускім Палессі саўгас-сад. Новая гаспадарка зойме плошчу ў дзве тысячы гектараў на беразе Дняпра і будзе спецыялізавацца на вырошчванні фруктаў і ягад.

### БЛОКІ-ПАКОІ

Мінскі домабудаўнічы камбінат № 3 — адзінае ў рэспубліцы і галоўнае ў краіне прадпрыемства, якое праводзіць гэты эксперымент: стварае якасна новы від жылля — аб'ёмна-блочны. У цэхах камбіната фармуюць блокі-пакоі. Тут іх тынкуюць, фарбуюць, устаўляюць вокны, выконваюць комплекс іншых работ. Гатовыя блокі-пакоі можна складаць, як кубікі, у шматпавярховыя дамы.

### СХОВІШЧА ДЛЯ БУЛЬБЫ

Беларускі навукова-даследчы інстытут бульбаводства і плодагародніцтва распрацаваў праект бульбасховішча з мінімальнымі затратамі на абсталяванне і абслугоўванне. Пры гэтым выкарыстаны матэрыялы шматгадовых даследаванняў інстытута і вопыт ГДР. Пры новым спосабе захоўвання страты бульбы і затраты працы змяншаюцца на 50, расход саломы — на 40 працэнтаў.

### СОЛЬ ЗДАРОЎЯ

Са свідравіны, прабуранай на тэрыторыі санаторыя-прафілакторыя Брэсцкага аддзялення чыгункі, ударыў фантан мінеральнай вады. Яна атрымана з глыбіні 1 280 метраў. Брэсцкая ўпадзіна — унікальная з'ява прыроды. Брыгадзе буравікоў прыйшлося пераадолець вапнякі, сланцы, пясчанікі, туфы, базальты. Вада атрымана са старажытнага асадкавага слоя — пратэразоя. Па свайму хімічнаму саставу яна блізкая да мінеральных водаў Міргарада (Украіна) і Друскінінкая (Літва). Брэсцкая хларыдна-натрыевая вада прыгодная для лячэння страўніка — кішэчных захворванняў.

### КАЛЯНДАР

**215 гадоў назад**

7.10.1765 нар. М. К. Агінскі, польскі кампазітар.

**70 гадоў назад**

8.10.1910 пам. М. Канапніцкая, польская пісьменніца.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.
Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel. 232-41 w. 276, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.
„Niwa" — PL ISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671.
Zam. 1475. Nakład 7.800 I-3.





**Па роднай зямлі.** Панскі „двор" з канца мінулага стагоддзя ў Ядлоўцы каля Войнаўкі ў гміне Дубічы Царкоўныя. Фота М. Гайдука.

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# ЖАМЧУЖЫНА МІНУЛАГА

Трыццаць пяты том манументальнага выдання „Полное собрание русских летописей", што рэалізуе Інстытут гісторыі СССР пры Акадэміі навук СССР, склалі 15 летапісаў і хронік, у іх ліку: летапісы Нікіфараўскі, Супрасльскі, Слуцкі, Віленскі, Археалагічнага таварыства, Акадэмічны, Валынскі кароткі, Красінскага, Рачынскага, Альшэўскі, Румянцаўскі, Яўраінаўскі, Магілёўская хроніка Сурты і Трубніцкага і ўрыўкі іншых. Усё гэта творы пісьменства, якія ў навуцы прынята называць беларуска-літоўскімі летапісамі. Каштоўнасць іх „не толькі ў тым, што яны змяшчаюць факты з гісторыі (галоўным чынам палітычнай) народаў літоўскага, беларускага, рускага, украінскага, польскага, але і ў тым, што яны з'яўляюцца помнікамі літаратуры, грамадскай думкі і гісторыі моваў, — падкрэслівае ва ўступе да тома яго складальнік і рэдактар, выдатны беларускі гісторык і археограф праф. **Мікалай Улашчык** і далей сцвярджае: — Разам з летапісамі і хронікамі, што надрукаваны ў томе XXXII „Полного собрания русских летописей", летапісы і хронікі, якія знаходзяцца ў гэтым томе (г. зн. 35-м — М.Г.), складаюць амаль усе дагэтуль вядомыя творы летапіснага характару, што змяшчаюць гісторыю Вялікага княства Літоўскага і паасобных яго мясцовасцей і напісаныя на тэрыторыі гэтай дзяржавы".

Для нас, жыхароў Беласточчыны, беларуска-літоўскія летапісы маюць вялікую каштоўнасць, бо яны непасрэдна датычаць нашага мінулага. Хоць у гэтых творах гістарычная праўда, легенды ці проста выдумка іх аўтараў пераплялíся ў дзівосны барвовы ўзор, усё ж можна з яго выматаць моцную нітку значных падзей і вылускаць нямала важкіх і дробных фактаў, што дзеяліся на абшары паміж рэкамі Бугам і Бобраю ў мінулым тысячагоддзі. А пільней учытваючыся ў іх, нараджаецца задума пра тое, ці не варта часам выбраць з розных летапісаў найбольш цікавыя ўрыўкі, дзе гаворыцца пра розныя здарэнні на тутэйшай зямлі і апублікаваць іх з невялікімі тлумачэннямі. Праца такая, пэўна, нялёгкая, але надта ж спакуслівая і абяцаючая плённыя вынікі. Нашыя чытачы, заглыбляючыся ў іх, узбагацілі б сябе звесткамі пра ўласнае карэнне ў тутэйшай зямлі, пра багацце нашага на ёй мінулага. Праўда, гэта былі б фрагментарныя і часам даволі заблытаныя паведамленні і здарэнні, але затое аўтэнтычныя. У кожным такім урыўку, а нават у кожным яго слове адчуваецца жывы пульс даўно адыйшоўшых у нябыт часоў, такіх блізкіх нам, нашых...

Спрабуйма сёння прыгадаць адзін-два такія абразкі.

У летапісе Рачынскага чытаем пра падзеі 1241 года, адразу пасля татарскага нашэсця, наступнае:

„И в тот час доведался великии князь Монтвил жомоитскии, иж Руская земля спустошона и князи руские розогнаны, и он, давшы воиско сыну своему Ерьдивилу, и послал з ним панов своих радъных, напервеи с Колюмнов Трумъпя, а другого з Уръсинов именем Эикъшыса, а третего з Рож именем Кгровжыса. И зашли за реку Велю, и потом перешли реку Немон и нашли в чотырох милях от реки Немна гору красну, и сподобалося им, и вчынили на неи город и назвали его Новгородок. И вчынил собе князь великии в нем столец, и назвался великим князем новгородским. И пошедшы з Новагородка и зарубил город Городно, и потом пошол до Берестья и нашол Берестеи и Дорогичын, и Мельник от Батыя спустошоны и покажены, и он тые городы зарубил и почал на их княжити. А потом умер князь великии Монтвил жомоитскии".

Неабходна памятаць, што гэта ўрывак з летапісу, складзенага ў XVI стагоддзі. Яго аўтар асабліва не клапаціўся пра праўдзівасць фактаў і падзей: Навагрудак у тым часе належаў да старажытных гарадоў, бо яму было тады сама меней 300 год, і князь жмудскі Мантвіл ніколі не валодаў ім. Таксама Гродна было ўжо старым горадам і „зарубваць", гэта значыць: засноўваць яго, не было патрэбы. Затое звесткі пра захоп літоўскімі дружынамі спустошаных татарскім нашэсцем Бярэсця, Драгічына і Мельніка не выклікаюць сумненняў, гэта пацвярджаецца іншымі летапісамі, напрыклад, Іпацьеўскім.

А ў Румянцаўскім летапісе пра час барацьбы ўнутры Вялікага княства Літоўскага паміж князем Ягайлам, а князем Кейстутам і яго сынам Вітаўтам у гадах 1379-1381 знаходзім:

„И князь великии Кестутеи борздо к Городну приидет к сыну своему и тут наидет жену свою и пошлет ее к Берестью, надеючися на мазовецкого, зятя своего, князя Януша, а сам князь великии Кестутеи поидет в Жомоиты, а сына своего Витовта оставит в Городне. Тогды князь Янушь мазовецкии, забывши доброе приязни тстя своего, князя великого Кестутья, и поиде воиском к Дорогичину, и Дорогичен возмет и осадит, и Сараж звоюет, и подступит под Берестья. И Берестья не вземши поидет проч, и осадит Дорогичин и Мельник. И князь великии Кестутеи, собравши всю жомоитскую силу и многии люди, и поиде под Троки..."

Гэта таксама напісана недзе ў канцы XVI стагоддзя, але факты пададзены больш праўдзіва. Дадаць толькі трэба, што тут горад Сараж — гэта сённяшняе мястэчка Сураж на рацэ Нарве.

І адзін і другі ўрывак нельга чытаць без зацікаўлення, праўда?

**Мікалай Гайдук**




**Незабыўныя хвіліны (на з'ездзе выпускнікоў бельскага ліцэя) ● З думкай аб рабочых ● Бакал беларускага шампанскага ● З расказаў дзеда Раманчука ● Андрэй Полацкі на Куліковым полі ● Гародчык цёткі Мальвіны ● Доля Анны Зінчук ● Весткі з Бельска, Кляшчэляў, Семяноўкі, Чаромхі, Дубіч Царкоўных, Крываціч ● Рыба лейтэнанта Еськова ● Калі сніцца, што кіраўнічка мае ляцець у Космас ● Кастусь у хворага таварыша ● Вывучаем беларускую песню „Ты ўспомні ўсё".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 5 X** — 6.20 TTR. Hod. zwierz. sem. III. 6.50 Mech. rol. sem. III. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. W pr. „Niedźwiedź pana Adamsa". 10.20 Antena. 10.50 Rep. film. 11.10 Suita Armeńska — film dok. 12.00 Dziennik. 12.20 Rolnicze rozmowy. 12.50 Przygody Sindbada — film anim. 13.15 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 6 X** — 13.30 TTR, RTSS — J. pol. sem. I. 14.00 Hist. sem. I. 15.20 NURT — Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.25 Polskie drogi, odc. 6 pt. Rocznica — film fab. TP. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. Artur Miller — Widok z mostu. 21.55 Horyzont. 22.25 Śledztwo zostało wznowione — cz. II. 22.55 Dziennik.

**Wtorek 7 X** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. sem. I. 6.30 Hist. sem. I. 9.55 Czerwone, żółte, ziel. — kl. I—III. 11.00 Wych. plast. — kl. III. 12.50 J. pol. kl. IV lic. 13.30 J. pol. sem. III. 14.00 Fiz. sem. III. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Interstudio. 17.20 Magazyn Młodych. 18.00 Świadkowie. 18.20 Królik Bugs przedst. — film anim. 18.50 Dobranoc. 19.00 Wyst. ambasadora NRD. 19.10 Dom i my. 19.30 Dziennik. 20.10 Milioner — pol. dramat psych. obycz. 21.50 Panorama. 22.30 Piotr Paweł Rubens — film dokum. 23.00 Dziennik.

**Środa 8 X** — 6.00 TTR, RTSS — J. pol. s. III. 6.30 Fiz. s. III. 9.00 kl. VII Gaz życia. 9.55 Praca technika kl. I. 11.00 Dla szkół kl. VII. Hist. 13.30 Fiz. s. I. 14.00 TTR Chem. s. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Turystyka i wypoczynek. 17.20 Forum korespondentów. 17.45 Los. Małego i Express Lotka. 17.55 I liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Knedle z serem — film fab. węg. 21.20 Lekarz radzi o astmie. 21.30 Poglądy. 21.45 Recital Teresy Harenzy. 22.05 30 min. z architekturą. 22.40 Dziennik.

**Czwartek 9 X** — 13.30 Hist. sem. III. 14.00 Mat. sem. III. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Turniej zastępowych. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek Tel. Dziew. i Chłop. 17.40 Tel. Młodych przedst. 18.05 Ludowe Wojsko Polskie — pr. film. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Wśród nocnej ciszy — pol. film fab. 22.05 Pegaz. 22.55 Kronika Konkursu Chopinowskiego. 23.15 Dziennik.

**Piątek 10 X** — 6.05 TTR Hist. sem. III. 6.30 Mat. sem. III. 9.00 Pr. dla najmłodszych kl. III. 9.55 Dla szkół. Geogr. kl. VI. 11.00 Wych. obyw. kl. VII. 13.30 TTR Hod. zwierząt sem. I. 14.00 Mech. rol. sem. I. 15.05 Red. szkolna zap. 15.20 Nurt. Ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Piątek z Pankracym. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Rodzina Połanieckich — odc. III Pojednanie — film TP. 18.40 Radzimy rol. 18.50 Dobranoc. 19.00 Tel. Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Studio debiutów cz. I. 21.05 Studio 8. 22.50 Dziennik. 23.05 Studio debiutów cz. II.

**Sobota 11 X** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. sem. I. 6.30 Mech. rol. sem. I. 13.30 TTR. Uprawa roślin. sem. III. 14.00 Mech. rol. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Orbita. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wojna planet — film anim. 16.55 Radar. 17.20 Tele gol. 17.40 Studio 8. 18.50 Dobranoc. 19.00 Studio 8. 19.30 Dziennik. 20.10 Zamek pułapka — kom. sens. franc.-wł. 21.35 Studio 8. 22.45 Kronika Konkursu Chopinowskiego. 23.05 Dziennik. 23.20 Miasto — ameryk. film sens.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 3 X** — 7.35 Film fab. 17.50 Film fab. 19.35 Co? Gdzie? Kiedy?
**Sobota 4 X** — 7.05 Filmy anim. 7.35 Film fab. 17.50 Film fab. 19.35 Ermitaż. 20.20 Pr. muz.
**Niedziela 5 X** — 7.35 Film fab. 12.45 Film fab. 13.15 W świecie zwierząt. 14.45 Film anim. 14.55 Film. fab. 16.00 P. nożna. Spartak — Dynamo (Tb.). 17.45 Pr. muz. 18.20 Film fab. 19.35 Panorama film. 21.05 Pr. estrad.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Amator — pol. 7—8. Czy zabiła — fr. 9—10. Klincz — pol. 11—12.

**Bielsk Podl.** Corleone — wł. 6—7. Przybywa jeździec — USA 8—10. Czereśniowy sad — bułg. 11—12.

**Czeremcha** Trudny jest tylko pierwszy krok — radz. 7—8. Ślady — wł. 11—12.

**Gródek** One dwie — węg. 11—12.

**Hajnówka** Ostatni film o Legii Cudzoziemskiej — USA 6—7. Chiński syndrom — USA 8—10. Zdjęcia na pamiątkę — buł. 11—12.

**Michałowo** Niewinna — fr. 7—8. Handlarz bronią — pol. 9—10. Test pilota Pirxa — pol. 11—12.

**Mielnik** Miłosna edukacja Walentego — fr. 8. Dzień mojej miłości — czes. 11—12.

**Milejczyce** Porwany przez Indian — NRD, Corleone — wł. 8—12.

**Narew** Porażenie prądem — węg. Anno Domini — jug. 8—12.

**Narewka** Aż rozłączy nas śmierć — NRD, Kieszonkowiec — fr. 8—12.

**Nurzec** Kapitan Mikula Mały — jug. 7—8. Prywatne piekło — USA 9—10. Do siego roku — węg. 11—12.

**Rajsk** Musisz żyć — NRD, Ojciec chrzestny — USA 8—12.

 

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ


* ✲ *

*Сваё шчасце,*
*аддаеш другім*
*па кавалку,*
*дзелячы на часткі.*
*Першы возьме,*
*скрывіцца другі,*
*Ну а трэці —*
*трэці праўду*
*проста*
*ў вочы*
*хлясне.*
*А пасля,*
*не верачы чаму,*
*б'ешся ў горы*
*са сваёй згрызотай.*
*Мабыць, ты ім*
*падарыў вясну*
*з крапівою*
*жгучаю*
*пад плотам.*

**Леапольд Танкевіч**

## РОЗЧЫТАЕ

Задуманымі очыма
Лапаю пылінкі часу,
Которы гоніт
Порывісты вітёр судьбы
У пространство існовання.
Скажы ты мні,
Скуль началась бэзкрэсна вічносць,
Окрэсль знак свого болю,
Знак смутку.
Мое сочуствіе,
Як дым з святого каділа,
Плывэ у двэры твого нэпокою,
А оркестра мого сэрця
Іграе радосць,
Котора помалу
Розходыцця по святыні Твого тіела.
Розкрывшы райські двэры
Нашых душ,
Положы долоні на мойі груді,
Нэхай мойе сэрце
Розчытае
З ліній твого прэдзначэння
Частыну мэйі долі.

**Іван Кірызюк**




Лета падняло якар і адплыло пад сонечна-ліпнёвай ветраззю. Запазнелыя промні яшчэ раз махнулі цеплынёй на развітанне. Восень... Глыбокія бледнасінія дні... Чамусьці пахудзелі і выцягнуліся вячэрнія цені. Сыпнула пазалотай на чупрыны дрэў. Жаўцізной зашаптаў стары клён за акном. Яшчэ часам заказыча па лёгкіх, цёплым успамінам, жытнёвы подых палёў, яшчэ раз адгукнецца летуценным рэхам птушыны аркестр у падрэчным кустарніку — і ўсё заплыве бабскім летам.

Паморшчаная восень майго юнацтва, восень дзяцінства бестурботнага! Жыццё нахальна кліча класа-кабінетамі, ківаюць старонкамі падручнікі. Заўтра еду ў горад. Вучыцца еду.

Лета скрылася за гарызонтам. Адплыло звонам кос у чаўне лугоў сенажатных, аржаным подыхам ніў. На мяжы адзінока асыпаецца пераспелы палын. Сумна ўглядаюцца ў буслінае кружэнне падрыжэлыя лагчыны. Пакінутай дзяўчынай утулілася ў далоні берагоў рэчка.

Нашу ў душы той здаровы арамат сена, плёскат рыб у цёплых хвалях, вячэрнія напевы дзяўчат. Сэрца зацягнулася хмурай расстання. Восень маёй радасці, шчасця мурзатага...

Рытмічна перастукваюцца рэйкі. Свіст цягніка ставіць апошнюю кропку. Бачу заліты змярканнем мой інтэрнацкі пакой. Столік, скрыпучы ложак... І цёплая імгла зацягвае вочы. Ціха стукаецца дождж у шыбіну. Ціснуцца ўспаміны і чую цёплы далёкі пацалунак наднараўскіх далін.
Буджуся на досвітках.

**Янка Целушэцкі**

* ✲ *

*Маме*

Мама ты прабач ты даруй
што і табе святла у вачах маіх не хапае

даруй — жыццё нездаровае ветру
і далёкае вандраванне па планетах
на якіх табе ногі не ставіць

гэта і добра толькі ты мне даруй
як даруеш птушкам што адлятаюць
і твой позірк восені нясуць
як я тваю кроў
неведома куды

Прабач што я не твая маладосць
не твае мары і што нашае шчасце
такімі рознымі колерамі зацвітае

Даруй мне мама хоць я не вінавата
шляху ветру раптоўнасці думак
агню слоў — раптоўнасці вадападаў

І даруй што меўшы твае вочы
бачу не тое што ты бачыш
што з тваім сэрцам праз свет бегчы
не бягу да ніякай хаты
даруй бяздомнасць у маім свеце
ўсё завялкіх, замнога каханняў
даруй мне вершы, даруй маўчанне
толькі ты мама
Ці прабачыш...

**І. Баравік**



## ПАСЛЯ ДАЖДЖУ



*Сонца плямамі свеціць*
*За вэлюмамі хмар,*
*Вецер дзьме на кларнеце,*
*Звоніць лес, як кабзар.*

*Над палямі, лясамі*
*Птушак чуць перазвон.*
*Багаты ён галасамі:*
*Тэнар, бас, барытон.*

*Неба кроплямі поту*
*Напаіла раллю,*
*І лучы пазалоты*
*Залілі ўсю зямлю.*

*Ззяе луг ізумрудам*
*А агатам палі,*
*І на небе эцюды*
*Пішуць з хмар караблі.*

*Стужкі цуднай вясёлкі*
*Мігацяць аганьком,*
*Акружылі пасёлкі*
*Каляровым вянком.*

*Сонца выгляне часам*
*І пакажа свой твар,*
*Альбо з кіслай грымасай,*
*Альбо з бровамі з хмар.*

*І тады зменіць колер*
*На хвіліну ўвесь свет.*
*Бліcне зоркай у полі*
*З жоўтых кветак букет.*

*І здаецца, што неба*
*Так вітае палі,*
*Будзіць зерняткі хлеба*
*У вільготнай раллі.*

**Д. Шатыловіч**

* ✲ *

Перачакаю холад вялікі
адкажу на пытанне кветкі
дзе сонца
маё сонца ў новых ботах
маё сонца без аглядкі
маё сонца ў сінявокіх хмарах
дзе вясна
мая вясна ў жывым альбоме
мая вясна ў возерных праменнях
мая вясна ў бялюсенькай кашулі
а лес
мой лес неразгаданы
мой лес чырвона-чорны
мой лес п'яны

і так нязлоўленыя дні ў запахах адсняцца
вяртанні
вяртаюся ў тэатр запісаны ўспамінамі
падыходжу да цёплых сталоў
без памяці
без памяці трываю

вялікі холад доўга памірае
— перачакаю

**Надзея Артымовіч**

## ШТУЧНЫЯ РУЖЫ

*Памяці С. М.*
*прысвячаю*

*Ты прынясла пяць штучных ружаў*
*У нашых сэрцаў пацігоддзе.*
*Ружы да сёння верна служаць,*
*Быццам жывыя. Яны штодзень*

*Уваскрашаюць успаміны.*
*Ты адыйшла так нечакана...*
*Ружы пунсовыя няспынна*
*Крывавяць ў сэрцы свежай ранай.*

**Віктар Швед**

* ✲ *

*Як каханне ёсць паэзіяй*
*Так паэзія каханнем*
*Бо інакш немагчыма*
*Ў прыгажосці яе сіла*

*Крыніца з жывой вадою*
*Яе кропля вечным шчасцем*
*Зямля-маці падарыла*
*І я стаўся пілігрымам*

*Сэрца б'ецца душа песні*
*У народзе маім плача*
*Ўжо здаецца шчасце ўбачу*
*А я толькі жыццё трачу.*

**Ул. Гайдук**

* ✲ *

душа
гарыць
Сонцам,
Згасне —
зоркай.

**Юрка Трачук**

* ✲ *

сказаў — будзь уважлівы
да людзей
больш чым да сябе
да чаго-небудзь

кожны чалавек
гэта паэт
жыццё гэта паэзія
для кожнай мурашкі
калі абціраe пот з ілба
і глядзіць
на сонца на захадзе
і залацістую сасну

**М. Лукша**



## НЕЗАГОЕНАЯ РАНА

*Калі мяне ад грудзей маці*
*адрывалі,*
*каб у Нямеччыну пагнаць*
*на долю злую*
*(Па схудзелым яе твары цяклі слёзы),*
*шаптала:*
*— Не пабачымся, сынок, ніколі.*
*Не пабачымся ўжо больш,*
*я чую.*
*Я зазлаваў*
*(І той ужо віны*
*ніхто*
*не зможа мне прабачыць):*
*— Не каркай, мама!*
*Ды вярнуся я дамоў!*
*Прайду дарогі ўсе,*
*якія б ні былі яны.*
*Абнімеш ты мяне*
*і да грудзей прытуліш зноў...*

*Не ўтрымалі*
*ні ваўкадавы, ні драты,*
*хоць, праўда,*
*шмат было ўжо тых дарог...*

*Сціплы крыж на могілках*
*паказалі мне браты,*
*каб плакаць, каяцца,*
*цярпець там мог...*

*Памерла ў месяц па маім ад'ездзе.*

**Алесь Батура**

* ✲ *

*Я бачыў цябе*
*як волата выплываючага з мора*
*пад нагамі зямля задрыжала*
*ды я*
*укленчыў перад табой каб пакланяцца тваёй Сіле*
*я бачыў цябе*
*як Еўропу калышачуюся на хвалях*
*жамчужыны льсніліся на тваім целе*
*ды я*
*укленчыў перад табой каб пакланяцца*
*тваёй Красе*

*я бачыў цябе*
*як маладую маці*
*якая цалуе дзіця далікатна*
*з любоўю*
*укленчыў перад табой каб пакланяцца*
*тваёй Дабраце*

*я бачыў цябе*
*як узброеную амазонку*
*якая з бязлітаснай упартасцю нападае на ворага*
*ды я*
*укленчыў перад табой каб прасіць*
*Літасці*

**Іштван Дабі**

